# Голас Радзімы

№ 30 (2172)
26 ліпеня 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Народны майстар з вёскі Неманіца Барысаўскага раёна Міхась РЖЭУЦКІ шырока вядомы сваімі мініяцюрнымі керамічнымі цацкамі-свісцёлкамі. З такім жа поспехам ён стварае з дрэва светлых птушак, якія быццам узлятаюць.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

## ЗАЦВЯРДЖАЕЦЦА КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ

На сесіі Вярхоўнага Савета БССР — гарачая пара: зацвярджаецца кабінет міністраў. Пасля папярэдняга абмеркавання ў пастаянных камісіях старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч уносіць прапановы па персанальнаму складу на разгляд і зацвярджэнне ўсіх дэпутатаў. Але адразу ж прэм'ер-міністра чакала расчараванне. Прапанаваная ім спачатку кандыдатура на пост першага намесніка не набрала патрэбнай колькасці галасоў. Некалькі дзён ішло зацвярджэнне членаў урада, і ніводзін дзень не абыходзіўся без «пралётаў». Былі забалаціраваны, у прыватнасці, прэтэндэнты на пасты міністраў гандлю, лясной прамысловасці, будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог, старшыні Дзяржаўнага камітэта па кнігадрукаванню, яшчэ аднаго намесніка прэм'ер-міністра... Сітуацыя ўскладнілася настолькі, што выклікала сур'ёзную трывогу ў самога прэм'ер-міністра, аб чым ён заявіў дэпутатам. У чым жа прычына такога становішча? Цяжка адказаць. Часам здаецца, што гэтага не ведаюць і самі дэпутаты.

Але значная частка міністраў усё ж прыступіла да выканання сваіх абавязкаў. Сярод іх ёсць і новыя людзі. Так, міністрам замежных спраў Беларусі стаў П. Краўчанка, па адукацыі гісторык, былы выкладчык і партыйны работнік. Назначаны і новы міністр фінансаў С. Янчук. Камітэт па эканоміцы, які павінен каардынаваць усю гаспадарчую работу, узначаліў былы міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі А. Мясніковіч. Фарміраванне кабінета міністраў працягваецца.

На адным са сваіх пасяджэнняў рэспубліканскі парламент прыняў пастанову аб сродках масавай інфармацыі Вярхоўнага Савета БССР. Адпаведна з ёю будзе выходзіць афіцыйны орган друку «Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР», з кастрычніка гэтага года засноўваецца «Народная газета» (на беларускай і рускай мовах), а са студзеня 1991-га года і часопіс «Дэпутацкая трыбуна».

У ЛЮСТЭРКУ САЦЫЯЛОГІІ

## ЯК НАМ ЖЫВЕЦЦА

Цікавую і часам сумную інфармацыю да роздуму далі сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя вучонымі ва ўсіх гарадах і раёнах Беларусі: на пытанні, ці адбыліся ў іх жыцці перамены да лепшага, толькі 3,1 працэнта рэспандэнтаў адказалі станоўча, 35 працэнтаў лічаць, што перамены ў лепшы бок нязначныя. Гэтыя людзі, як правіла, ускладвалі вялікія спадзяванні на перабудову, якая, у іх вачах, не прынесла жаданых вынікаў. У 29,4 працэнта апытаных у жыцці нічога не змянілася, у 19,3 працэнта — пагоршылася, у 13,2 працэнта — значна пагоршыліся матэрыяльныя, культурныя, бытавыя і іншыя ўмовы жыцця.

Гаворачы аб прычынах падзення сацыяльна-эканамічнага становішча грамадства, 26 працэнтаў апытаных заявілі, што бачаць іх у адсутнасці прынцыповасці і паслядоўнасці ў правядзенні намечаных мерапрыемстваў ва ўрадзе краіны. Рэспандэнты сцвярджалі, што ў ходзе перабудовы былі дапушчаны сур'ёзныя пралікі, што вучоныя давалі неэфектыўныя рэкамендацыі, а Вярхоўны Савет СССР прымаў дзяржаўныя акты, не спрагназіраваўшы іх вынікаў.

ЦІ ПАКАШТУЕМ?



Рыбакамбінат «Нарач» на Мядзельшчыне выпрабляе прадукцыю сарака назваў: кансервы з ляшча, карпа, судака, шпроты ў масле, рыбу вяленую і халоднага вэнджання і іншыя. Сёлета шэраг далікатэсаў накіруюць у Італію. Але, на жаль, нямногіх з нас можа парадаваць далікатэсамі камбінат. Бяднее яго сыравінная база. Змяншаецца колькасць вугра ў Нарачы. Спасылаючыся на адсутнасць сродкаў, ужо колькі гадоў не вядзецца засяленне возера гэтай каштоўнай і ўвогуле ўжо рэдкай рыбай. Не згубіць бы час...
НА ЗДЫМКУ: рыбакі на Нарачы.

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА

## ЗНАЁМЦЕСЯ: «СКАН-ГРОДНА»

Шведска-польская фірма «Скан-прадукт» і гродзенскае аб'яднанне «Азот» заснавалі новае сумеснае прадпрыемства — «Скан-Гродна». Спачатку яно будзе выпускаць дэзадаранты, духі, адэкалоны, а з часам — дзесяткі іншых парфюмерных і касметычных вырабаў.

Зараз на тэрыторыі «Азота» па спецыяльнаму праекту рэканструюецца памяшканне. Група хімікаў, якія будуць тут працаваць, рыхтуецца да стажыроўкі ў Польшчы. Сумеснае прадпрыемства плануе даць першую прадукцыю ўжо гэтай восенню, а ўсяго зможа вырабляць яе прыкладна на 10 мільёнаў рублёў штогод.

На ўзаемавыгаднай аснове ў аб'яднанні сталі супрацоўнічаць і з іншымі зарубежнымі партнёрамі. За валюту, выручаную ад продажу звышпланавай прадукцыі, купляюць тэхналагічнае, медыцынскае абсталяванне, сыравіну для выпуску тавараў бытавой хіміі. Шырока практыкуюцца і бартэрныя пагадненні, у прыватнасці з Кітаем. У абмен на карбамід у гэтай краіне былі набыты для работнікаў бытавая тэхніка, адзенне, іншыя дэфіцытныя вырабы, якія рэалізуюцца ў спецыяльным магазіне. Улічваючы, што прамыя сувязі з інафірмамі рэзка пашыраюцца, наладжана прафесійная вучоба супрацоўнікаў аддзела. Ужо створана група перакладчыкаў, з'явіцца бюро па сумесных прадпрыемствах, па маркетынгу.

ПАСЛУГІ НАСЕЛЬНІЦТВУ



Мінскае вытворчае прадпрыемства «Спадчына» беларускага таварыства «Кніга» прымае заказы ад насельніцтва і ўстаноў на розныя паліграфічныя работы. Напрыклад, яны займаюцца рамонтам і рэстаўрацыяй кніг, вырабам розных папак, віншавальных адрасоў... Нямала прадукцыі выпускаецца для школ і дашкольных устаноў.
НА ЗДЫМКУ: да новага навучальнага года пераплётчыцы Н. ЖАНПІЛЕВІЧ і Л. ЦІХАНОВІЧ рыхтуюць чарговы заказ — камплекты з адлюстраваннем 45 беларускіх пісьменнікаў.

РЭЛІГІЯ

## ІКОНЫ ВЕРНУТЫ ЦАРКВЕ

Урачыстая літургія з выпадку асвяшчэння Свята-Мікалаеўскай (Брацкай) царквы ў Брэсце прыцягнула ўвагу многіх гараджан. Царква гэтая доўгі час была зачынена для прыхаджан, у ёй было абсталявана абласное архіўнае сховішча. А цяпер мясцовыя органы ўлады перадалі храм праваслаўным веруючым, і знешні выгляд культурнага помніка хутка зменіўся.

У дзень урачыстай літургіі, у якой удзельнічаў мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, патрыяршы экзарх усяе Беларусі Філарэт, ажылі званы, адлітыя варонежскімі майстрамі.

Свой уклад у адраджэнне храма ўнёс і Брэсцкі абласны краязнаўчы музей, у фондах якога захоўваліся іконы, крыжы і іншыя прадметы культу, канфіскаваныя таможнікамі на дзяржаўнай граніцы СССР у кантрабандыстаў, якія спрабавалі вывезці царкоўныя каштоўнасці за рубеж. Супрацоўнікі музея перадалі таксама служыцелям Свята-Мікалаеўскай царквы і духоўную літаратуру, якая была ў запасніках.

АХОВА ПРЫРОДЫ

## ДОБРЫ ДЗЕНЬ, БУСЕЛ

Нават на Палессі чорны бусел у апошнія гады лічыўся рэдкай птушкай. Вучоныя нейкі час меркавалі, што ў сувязі з меліярацыяй земляў ён тут наогул перастаў гнездавацца.

Але цяпер становішча мяняецца да лепшага. Аматары прыроды многіх раёнаў Брэстчыны і Гомельшчыны ствараюць гэтай асцярожнай птушцы ідэальныя ўмовы для гнездавання і размнажэння. Актывісты пярвічных арганізацый таварыства аховы прыроды, лясгасаў, многіх гаспадарак поўдня рэспублікі ў спецыяльна адведзеных зонах цішыні абсталявалі сёлета больш як 400 пляцовак для гнёздаў, большасць з якіх «прынялі» цёмнакрылыя прыгажуны. Напрыклад, калі ў мінулым годзе на тэрыторыі калгаса «Зара камунізму» Іванаўскага раёна было зарэгістравана 16 гняздоўяў чорнага бусла, дык гэтай вясной тут 24 пары гэтых птушак.

Больш, чым летась, пасялілася чорных буслоў ва ўгоддзях Пінскага, Столінскага, Лельчыцкага, Петрыкаўскага, Жыткавіцкага і іншых раёнаў Палесся.

ГАРБАЧОЎ НЕ БУДЗЕ РАНЕЙШЫМ

## ЛІДЭР ПАСЛЯ З'ЕЗДА

Нягледзячы на рэзкую, часта агрэсіўную крытыку, якой падвяргаўся М. Гарбачоў на XXVIII з'ездзе КПСС, ён заканамерна застаўся лідэрам партыі. Уласна, яго паўторнае абранне на вышэйшы партыйны пост было, як гаворыцца, прадвырашана. Так лічаць большасць аналітыкаў, якія сачылі за складанай эвалюцыяй дэлегатаў з'езда. Гэты пункт погляду пацвярджаўся і сацыялагічнай службай з'езда. Ды і апытанні сярод дэлегатаў паказвалі, што ў Гарбачова самы высокі рэйтынг сярод усіх магчымых прэтэндэнтаў на вышэйшы пост у партыі.

Такім чынам, Гарбачова чакае той жа Крэмль, тыя ж рэаліі і атрыбуты ўлады. І разам з тым — гэта будзе ўжо іншы чалавек. І справа не ў новых сівізне і маршчынах, што з'явіліся за час незвычайна цяжкага для яго з'езда. XXVIII з'езд КПСС, як мне здаецца, змяніў Гарбачова знутры.

У адрозненне ад лідэраў, якія папярэднічалі яму, аддавалі перавагу пры ацэнцы палітычных і сацыяльных з'яў звыклым для іх словам з марксісцкага лексікону, Гарбачоў любіць слова «лёс» і часта карыстаецца ім. І гэта не выпадкова. Звязаўшы свой лёс з лёсам перабудовы, ён павінен падзяляць яе плён і ўзрушэнні. Адным з такіх узрушэнняў быў для яго XXVIII з'езд КПСС.

Калі непрымірымыя са стана кансерватараў падвяргалі яго анафеме за «дэмантаж сацыялізму», ці ўспамінаў ён маналог Барыса Гадунова з трагедыі Пушкіна? Аналогіі між тым надзвычайныя. І той, і другі спрабавалі стварыць народу ўмовы для добрага жыцця. Абодва (з папраўкамі на эпоху) імкнуліся даць краіне асновы дэмакратыі і права, пазбавіць народ ад страху...

Абодва былі незразуметы, абсвістаны натоўпам, які падбухторвалі ў адным выпадку баяры, у другім — партыйныя вяльможы, што змаглі забяспечыць сабе на з'ездзе шумную большасць.

«Они ж меня, беснуясь, проклинали», — скардзіўся Барыс Гадуноў.

Гарбачоў на з'ездзе не скардзіўся, не пасыпаў галаву попелам. Ён змагаўся за тое, каб перавярнуць на сваю карысць «думку народа», якая, здавалася б, безнадзейна выслізгвае ад яго. Хрушчоў пры першай жа спробе кансерватараў пазбавіць яго ўлады пакорліва скарыўся. Брэжнеў, улічыўшы ўрокі Хрушчова, поўнасцю аддаўся пад уладу апарату. Гарбачоў змагаўся да канца, каб перамагчы.

Спецыфіка «смутнага часу», пра які гаворыцца ў «Барысе Гадунове», складалася з таго, што цар-дэмакрат ішоў наперадзе часу. Рэформы Гарбачова таксама істотна апярэдзілі эвалюцыю грамадскай свядомасці. Утварыўся небяспечны разрыў паміж уладай і часткай народа, які ўсё яшчэ жыве міфамі і догмамі сталінскага сацыялізму. На XXVIII з'ездзе КПСС адбылося драматычнае сутыкненне старога і новага: сутыкненне міфічнай свядомасці з рэальнасцямі і імператывамі парабудовы.

Бліжэй к канцу з'езда абазначыўся дэмакратычны пералом. Перабудова вытрымала штурм кансерватыўных батальёнаў. Бескампраміснасць бітвы прадвызначалася тым, што кансерватары разумелі: яны ідуць на апошні бой. Але і рызыка рэфарматараў, якія ўвасабляліся на з'ездзе імёнамі Гарбачова, Якаўлева, Шэварднадзе, была вельмі вялікай. У выпадку іх паражэння і адкату перабудовы неасталіністы не даравалі б ім замахаў на сваю маёмасць і свае прывілеі.

Перамога давалася нялёгка. Людзі, якія блізка бачылі Гарбачова ў гэтыя дні, звярталі ўвагу на яго празмерную стомленасць. Думаю, што некалькі дзён з'езда каштавалі яму некалькіх гадоў жыцця. Што ж датычыцца палітычнага вопыту, дык перыяд з'езда, відаць, варта залічыць як усе пяць гадоў перабудовы.

Няма сумнення, што за час, які прайшоў з 11 сакавіка 1985 года, калі М.С. Гарбачоў быў абраны Генеральным сакратаром, савецкі кіраўнік зведаў вялікую эвалюцыю. Змяніліся яго ідэі, прамовы, погляды, месца ў сістэме ўлады, прыярытэты каштоўнасцей... Прадукт наменклатуры, што зрабіў сваю кар'еру ўнутры складанай сістэмы партыйных калідораў, ён стаў першым прэзідэнтам краіны, якая абнаўляецца. Але, нягледзячы на ўсю эвалюцыю поглядаў, сістэма, з якой ён уступіў у схватку, працягвала жыць у ім. Падобна чэхаўскаму інтэлігенту, ён выціскаў яе з сябе па кроплях, мяняючыся на вачах і ўсё-такі застаючыся чалавекам сістэмы.

Урокі, здабытыя Гарбачовым, аплацяць палітычныя «сінякі», атрыманыя ім на XXVIII з'ездзе КПСС. Урокі гэтыя павінны прадвызначыць пасля з'езда ўсю палітыку Гарбачова і яго аднадумцаў. Адзін з урокаў складаецца з таго, што пры руху да дэмакратыі нельга абапірацца на кансерватараў. Апорай дэмакратыі могуць быць толькі дэмакратычныя сілы, нават калі яны «нязручныя».

Другі, можа, самы галоўны ўрок складаецца з таго, што на небяспечных, «судьбоносных» (як любіць гаварыць Гарбачоў) паваротах гісторыі з народам нельга хітраваць. Яму трэба гаварыць усю праўду, якой бы жорсткай яна ні была.

Вядома, многія «хітрыкі» Гарбачова, у прыватнасці ў адносінах такіх паняццяў, як «рынак», «прыватная ўласнасць», «сацыялізм» і г. д., былі вымушанымі, прадыктаванымі маруднасцю эвалюцыі грамадскай свядомасці, з аднаго боку, і азіраннем на кансерватараў, якія толькі і чакалі, каб Гарбачоў «прагаварыўся», — з другога. Але крыніца многіх цяжкасцей Гарбачова на з'ездзе, прычына неразумення паміж ім і часткай насельніцтва — у зацягнутым дазіраванні праўды, у аглядках самога Гарбачова на догмы і стылістыку ранейшых гадоў.

Вячаслаў КОСЦІКАЎ.

# PARLAMENTARIOS ARGENTINOS EN LA URSS

RECIENTEMENTE visitó Moscú un grupo de legisladores del Congreso Nacional de Argentina, invitado por el Soviet Supremo de la URSS.

Paralelamente a un cronograma de trabajo intenso, los ediles de Congreso argentino visitaron Leningrado, Kíev y la ciudad de Zagorsk, en las afueras de la capital soviética.

Horas antes de partir a Buenos Aires el grupo de parlamentarios encabezado por el senador nacional del partido gobernante Alberto José Rodríguez Saa concedió en el hotel "Moskvá" una conferencia de prensa a la que asistieron representantes de la radio, la TV y otros medios de información.

En la misma se remarcó la importancia que tiene el intercambio de delegaciones parlamentarias. En las entrevistas y diálogos mantenidos con sus pares del Soviet Supremo se han perfilado coincidencias de criterios para una colaboración más sólida entre ambos paises. Se ve plausible el intercambio de experiencias en distintas áreas de trabajo entre los Comités del Soviet Supremo de la URSS y las Comisiones y expertos del Congreso Nacional argentino.

El viaje ha permitido a los huéspedes percibir vivencias personales directas de la URSS, conocer el funcionamiento del Soviet Supremo y compenetrarse de manera viva con el actnal proceso de la perestroika, que en "algunos de sus puntos coincide con las transformaciones que se están realizando en Argentina".

Apreciando el gran papel de la juventud en la sociedad soviética, Alberto José Rodríguez Saa expresó que los politicos de distintos paises están acostumbrados "a prometer a la juventud un futuro mejor, pero lo que hay que darle es un presente mejor y posibilidades para desarrollarse."

Por su parte el legislador Adolfo Gass, del partido Radical del Pueblo, dijo que "la ideología socialista no ha fracasado, sino la metodología empleada y los medios de llevarla a cabo", y acto seguido expresó que él habia notado cambios ponderables en el proceso de democratización en la URSS.

Fueron destacadas enormes posibilidades para desarrollar la colaboración entre ambos países, teniendo en cuenta el mercado que representa la URSS. Los soviéticos han propuesto crear empresas mixtas y potenciar el intercambio comercial.

Las relaciones comerciales entre Argentina y la URSS han pasado a través del tiempo por duras pruebas. Basta recordar cuando Argentina, evadiendo la presión de EE.UU. decidió unilateralmente vender trigo y carne a la Unión Soviética.

Se señaló también la necesidad de promover los intercambios comerciales directos entre las provincias argentinas y las repúblicas soviéticas. Ya hay antecedentes con las provincias de Mendoza y Córdoba, que han firmado con la URSS importantes acuerdos de mutuo beneficio.

Los huéspedes ven favorablemente los cambios operados en la palestra mundial por el proceso de distensión y disminución de la carrera armamentista, sobre todo después de la cumbre del presidente Mijail Gorbachov con el presidente estadounidense G. Bush.

Para continuar este tipo de intercambio de delegaciones parlamentarias, la parte argentina invitó a una delegación del Soviet Supremo de la URSS a visitar Argentina.

**Orlando FLORES**

# ¿NOS ESPERAN EN OCCIDENTE?

Vladímir Scherbakov, presidente del Comité Estatal para Trabajo y Asuntos Sociales, ha efectuado en Ginebra consultas con sus colegas de EE.UU., la CEE, Australia y Canadá sobre la necesidad de elaborar una política conjunta respecto al empleo de la mano de obra de la URSS en la economía de los países occidentales. El titular comenta estas conversaciones.

**Pregunta:** ¿Hasta qué punto es real la aparición de un torrente de soviéticos en busca de empleo en Occidente?

**V.S.:** Según nuestras estimaciones, si este otoño es aprobada la ley de libre entrada y salida, en 1991, de 2 a 3 millones de ciudadanos soviéticos saldrán al extranjero en busca de empleo. Hoy es difícil presagiar el dinamismo de este proceso.

Ahora existe un serio problema relacionado con el "trabajo clandestino" de ciudadanos soviéticos en otros países, ante todo los escandinavos. De momento, son varios miles de trabajadores "ilegales". Sin embargo, los países de Europa Septentrional muestran preocupación con motivo de las graves consecuencias sociales y políticas que puede acarrear este proceso.

Los primeros encuentros sostenidos con mis colegas de los países occidentales en Ginebra, en el marco de la Conferencia realizada por la Organización Internacional del Trabajo, demuestran que ellos no ven claramente la posibilidad de una afluencia masiva de mano de obra de la URSS. Yo no cifro especial esperanza en las legislaciones nacionales de los países europeos y de EE.UU., que prohíben el trabajo ilegal. Pero la experiencia patentiza que existen muchas vías que permiten eludirlas. Asimismo, surgen problemas referentes a la defensa del status social y jurídico de los obreros procedentes de la URSS.

Nuestro Comité no está en contra de que ciudadanos soviéticos trabajen en el extranjero, y nuestras consultas efectuadas con los ministros de Trabajo de los principales paises occidentales persig el objetivo de ordenar proceso. Quisiéramos crear un sistema que permita al ciudadano soviético, viviendo aún en la URSS, firmar un contrato para obtener un determinado puesto de trabajo.

**Pregunta:** ¿Será posib pronosticar el desarrollo esta práctica?

**V.S.:** Diversas firmas pueden ofrecer empleo, en condiciones ventajosas al máximo, a especialistas soviéticos altamente calificados que trabajan en la industria militar o la extractora. Por otro lado, hay trabajos que los ciudadanos de la mayoría de los países industrializados se niegan a aceptar. En esta esfera también existe una demanda no satisfecha.

Una de nuestras tareas principales consiste en crear para los obreros, técnicos y científicos altamente calificados condiciones materiales y laborales análogas a las que les pueden ofrecer en Occidente. Solamente así podremos contener la "fuga de cerebros" ya iniciada en la URSS.

**Vitali MAKARCHEV**



*Poblado de Vóronovo (provincia de Grodno).* Foto: V. SHUBA y V. MIZHÉVICH.

# SOCIEDAD DE AMIGOS DE LA CULTURA POLACA

Más de 400.000 polacos viven en Bielorrusia, fundamentalmente en la provincia de Grodno que colinda con la voivodia polaca de Belostok. A la luz de este hecho, se comprende por qué justamente en Grodno se ha instalado la junta directiva de la Sociedad de Amigos de la Cultura Polaca "Adán Mickiewicz", que desarrolla sus actividades de ilustración tanto entre la minoría nacional polaca como entre los bielorrusos que tradicionalmente se interesan por la cultura polaca.

La Sociedad fue fundada en agosto de 1988, en la Conferencia Constituyente a la cual asistieron 500 delegados de las ciudades y aldeas en que viven polacos. Eligieron su junta directiva, aprobaron el Reglamento y expresaron el deseo de entrar como miembro colectivo en la Sociedad de Amistad URSS-Polonia.

La Sociedad se ha planteado el objetivo de contribuir a la conservación del folklore polaco, propiciar la creación literario-artística y las actividades editoras y científicas y proteger los monumentos de la cultura polaco-bielorrusa; cooperar con los centros educacionales en la organización de la enseñanza de la lengua polaca en escuelas medias y difundir los conocimientos sobre distintos espectos de vida del pueblo polaco.

La Sociedad presta atención prioritaria a las actividades de ilustración, a los colectivos artísticos de aficionados, al movimiento literario y al quehacer museológico.

El vicerrector de la Universidad de Grodno, Serguéi Gabrusévich, que fue uno de los iniciadores de la fundación de la Sociedad, dice:

—Hoy, es la vida la que dicta la necesidad de crear semejantes estructuras sociales. En el poco tiempo que existimos, hemos logrado hacer muchas cosas útiles. Por ejemplo, organizamos 30 círculos para el estudio del polaco. A proposición de los activistas de la Sociedad, el Colegio del Ministerio de Instrucción Pública de la república estudió las cuestiones vinculadas a la organización de la enseñanza del idioma polaco. Se decidió comenzar la preparación de profesores del polaco en nuestra Universidad a partir del 1° de septiembre de este año y crear una cátedra de lingüística polaca porque hay bastante gente que se dedica a la polanística. Hace mucho que colaboramos con especialistas de Varsovia y Cracovia; se amplían nuestros contactos científicos con el Instituto de Eslavística que funciona adjunto a la Academia de Ciencias Sociales de Varsovia, con el Museo de Literatura "Adán Mickiewicz" y con la filial de la Universidad de Varsovia que está en la ciudad de Belostok; tenemos concertados acuerdos de cooperación con la Escuela Superior de Pedagogía de Cracovia...

Hoy, hemos fijado ya concretamente los temas de nuestras actividades culturales: hemos inaugurado el Decenio de Adán Mickiewicz durante el cual planeamos restablecer todos los lugares notables en la provincia de Grodno vinculados al nombre del gran ilustrador polaco, de los cuales hay muchos en nuestra provincia. Decidimos también celebrar veladas literarias tradicionales dedicadas al poeta.

Una de las tareas que se ha planteado la Sociedad es popularizar las obras de escritores polacos. Recientemente ha sido publicado el estudio crítico de la literato Svetlana Musienko sobre la producción de Zofia Natkowska, que figura entre las personalidades más relevantes de la cultura polaca y que reflejó en sus obras acontecimientos históricos tan importantes como la revolución de 1905, dos guerras mundiales, la lucha antifascista y la construcción de una Polonia democrática. El libro mencionado abarca el período de vida y creación de la escritora en los años 20 que ella vivió en Grodno. Ha salido también el libro "Memorias" cuyo autor, el polaco J. Przymanowski, habla de los soldados —muchos eran bielorrusos— que entregaron su vida por liberar a Polonia de los fascistas.

Las actividades de la Sociedad son un aporte real al desarrollo de la cultura de ambos países y al fortalecimiento de las relaciones de buena vecindad entre ellos.

**Grigori KOLOBOV**



Redactor de la página K. SHELESTÓVICH

## ГОСЦЬ БЕЛАРУСІ — ТАНЦАВАЛЬНЫ ГУРТОК «ВАСІЛЁК» З АМЕРЫКІ

# МАЛІТВА ЗА ЗЯМЛЮ ПРОДКАЎ

### III. БЕЛАРУСЫ МОЦНЫЯ, ЯНЫ І НЕ ТАКОЕ ВЫТРЫМЛІВАЛІ

Дзесяць дзён — тэрмін невялікі, каб паглядзець, нават збольшага, краіну, пазнаёміцца з укладам жыцця, з мясцовымі праблемамі, хоць трохі разабрацца ў сутнасці падзей. Тым больш, калі ў гэтай краіне адбываюцца грандыёзныя перамены, сутыкаюцца (аж трэскі ляцяць у бакі) старое, аджыўшае, коснае і новае — прагрэсіўнае, смелае, калі ідзе пошук шляхоў далейшага развіцця. «Васілёк» жа, як прыехаў, з першых дзён пачаў свае выступленні ў Мінску. Дзяўчаты скардзіліся, што ні часу, ні сіл ужо не застаецца, каб нават проста прайсціся па гораду, забегчы ў магазіны, набыць нейкія сувеніры, паглядзець, чым тут гандлююць, пагутарыць з людзьмі.

Але тыя рэдкія выпадкі, калі ім усё ж удавалася з кім-небудзь загаварыць на вуліцы, прыносілі расчараванне.

— Мы ведалі, што ў Беларусі кепска з беларускай мовай, — казалі яны, — але каб так кепска, то нават і не ўяўлялі. Гэта ж у сталіцы ні разу не пачулі, каб людзі паміж сабой размаўлялі на сваёй мове! Хіба адзін народны фронт валодае мовай...

Дарэчы, хаця і абмежаваныя ў вольным часе, нашыя госці ўсё-такі, як мне здаецца, не былі жорстка заціснуты апекай таварыства. Проста апека атрымалася двайная. Як бы не давяраючы таварыству, бэнэфаўская моладзь узяла сваё шэфства над «Васільком». І ў нязмушаных гаворках з імі ў атэлі, якія часта зацягваліся аж да світання, амерыканцы маглі даведацца пра ўсе сённяшнія справы ў Беларусі. Спявалі разам. Бо заўсёды з імі быў вольны паэт з Полацка, вядомы беларускі бард Сяргей Сокалаў-Воюш, які стаў і пастаянным удзельнікам усіх канцэртаў-выступленняў. Трэба думаць, што цікава напішуць і раскажуць пра свае кантакты з «Васільком» і ўвогуле пра іх знаходжанне ў Беларусі і два незалежныя, як яны сказалі, мінскія рэпарцёры, якіх мусіла ўзяць пад сваю апеку Ала Орса-Рамана, таму што маладыя людзі, парушаючы ўсе законы прыстойнасці, ніяк не хацелі кантактаваць з прадстаўнікамі таварыства, хаця тыя і былі ў данай сітуацыі гаспадарамі. А кожны гаспадар, як вядома, кліча ў свой дом тых гасцей, якіх ён хоча, і жадае ведаць, з кім ён сядзіць за адным сталом.

— Мне так здаецца, — дзяліўся сваімі думкамі-назіраннямі разважлівы Віктар Тур, — што Беларусь падзелена як бы на дзве часткі: адна — гэта тыя, хто ў БНФ, а другая — усе астатнія. Ці так гэта?

Я не знайшла тады адразу, што сказаць — «так» ці «не». Пэўна, і «так», і «не» — у абодвух выпадках будзе ўсё ж спрошчаны варыянт. Палатно нашага жыцця не чорна-белае, а надзвычай рознакаляровае. І Віктару Туру, як госцю, які да таго ж многае ўспрымае з чужых слоў, на веру, немагчыма гэта ўявіць. Праўда ж тое, што ў нас існуе канфрантацыя паміж афіцыйнымі і неафіцыйнымі структурамі (такой якраз з'яўляецца БНФ), а таксама і нецярпімасць у адносінах адзін да аднаго прадстаўнікоў гэтых структур, іх нежаданне знайсці агульную мову. А ў такі цяжкі і адказны для Беларусі гістарычны момант трэба мысліць ужо іншымі катэгорыямі. Цяпер, калі навіс над ёю Чарнобыль, стаіць пытанне аб выжыванні і наогул існаванні нашай нацыі, неабходна сабраць усе свае сілы, аб'яднацца, адкінуўшы ўласныя амбіцыі ў імя будучыні, каб перамагчы бяду, захаваць мову і сваю самабытнасць. А ўнутраны разлад — ён смерці падобны, самазнішчэнню.

Аднак, вобразна кажучы, вернемся да нашых баранаў, а калі прасцей, то да нашых сумесных вандровак. Спыніліся мы на тым, што госці моцна пакутавалі ад адсутнасці вольнага часу. А план, між тым, уключаў у сябе яшчэ і паездку на радзіму Якуба Коласа, і наведванне музея старажытнай беларускай культуры ў Акадэміі навук БССР, і дзіцячых садкоў...

Сёння, адкручваючы назад стужку падзей тых 10 гарачых дзён, калі «васількі» гасцявалі ў Беларусі, вельмі выразна бачу асобныя эпізоды, ну ўсё роўна, як кадры каляровага фільма... Цёплы, ласкавы вечар. Ні хмурынкі на небе. Хата, у якой жыў славуты пясняр Беларусі. А навокал такая ціша, такое прыволле, такая казачная спрадвечнасць прыроды, што ажно без віна ап'янелы робішся.

Ці адчулі нашыя госці, якая велічная, пявучая, натхняючая гэта зямля, зямля іх продкаў?!

Альбо вось яшчэ эпізод. Пасля выступлення ў калгасе «Нёман» на Стаўбцоўшчыне, даведаўшыся, што Коля Бахар жыве ў штаце Нью-Джэрсі, яго абступілі кабеты.

— Ці чулі пра Лёву Высоцкага, то мой брат дваюрадны, калі ласка, перадайце яму прывітанне ад Люды з Новага Свержаня, — са слязамі на вачах просіць жанчына.

— І Ігару Шчорсу — ад сёстраў Люды, Галі і Шуры.

— А я летась ездзіла да брата ў Саўт Рывер, рабіла там аперацыю, — усхвалявана прыгадвае Ніна Гаўрылавіч. — Мае ж вы дзетачкі, завязіце паклон сваякам з роднай зямлі.

Я стаяла побач і з цікаўнасцю назірала тады за сустрэчай. Было нават такое ўражанне, што Коля — самы найраднейшы чалавек гэтым вясковым кабетам з загарэлымі тварамі. Ды і Коля, разгублены і расчулены, здаецца, гатовы быў кінуцца ў абдымкі да іх.

Яшчэ адзін эпізод. Ужо з незапланаваных мерапрыемстваў. Імправізаваная рэпетыцыя, якая ўзнікла непасрэдна ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Яе вядзе малады даследчык беларускага танцавальнага фальклору Генік Каляда. У наяўнасці толькі тры пары. Развучваюць фігуры «Лявоніхі». Увесь танец акампаніруюць сабе самі: ля-ля-ля. Бадай што, больш гадзіны доўжыліся тыя практыкі. Болей яны сабе не маглі дазволіць, бо іх ужо чакалі.

...Зноў уключаецца стужка памяці. І дзіўная рэч: усё наша нялёгкае бліц-падарожжа на аўтобусе, у часе якога мы наведалі тры старажытныя беларускія гарады, сёння, з адлегласці часу, бачыцца амаль што рамантычнай, поўнай прыгод прыемнай вандроўкай.

Памятаеце, як недарэчна пачалася паездка. Доўга стаялі ля Дома радыё, пакуль загрузіліся з апаратурай і інструментамі артысты ансамбля «Жывіца». Вадзіцель адмаўляецца ехаць, бо машына перагружаная. «Спадару» Анатолю Абрамчыку, супрацоўніку таварыства «Радзіма» ў гэты момант ніяк не пазайздросціш. Хаця зусім не па яго віне не прыйшоў другі аўтобус, куды меркавалі скласці ўвесь багаж.

Але што ж рабіць? Хіба чакаць, пакуль пачнецца рабочы дзень, а тады звязвацца з рознымі інстанцыямі, зноў дамаўляцца?!

— Сістэма? Камандна-бюракратычная? — спачувальна і здзіўлена паціскаюць плячамі амерыканцы, якія ніяк не могуць зразумець такой сітуацыі і такіх адносін да сваёй работы. У іх наконт гэтага строга.

— Будзем утрамбоўвацца, — прымаецца нарэшце мудрае рашэнне.

І наш абжыты ўжо аўтобус, утрамбаваны да такой ступені, што не варухнуцца, адпраўляецца ў бліц-турнэ.

Едзем з ветрыкам, раніца, прахалода — не грэх і паспаць якую гадзіну. Але раптам — ву-у-х! — і асела машына на адзін бок. Салон напоўніўся пылам — не вытрымала кола.

Што тут пачалося! Як быццам толькі і чакалі гэтага моманту — трапіць у лес, расслабіцца. Пакуль вадзіцелі мянялі кола, усе рынуліся на прыроду. Адразу заляманатаваў магнітафон і моладзь кінулася размінаць у танцы косці. На зялёным абрусе палянкі з'явілася вялізная пасудзіна з грыбным супам і іншымі прысмакамі, што зрабіла ўчора для гасцей Валянціна Пархоменка. Во ўжо адвялі душу ў час таго кароткага вымушанага прыпынку. Успомніць прыемна.

Першы на нашым шляху Полацк. Усе разлічваюць, акрамя выступлення, зрабіць і экскурсію па гораду з сусветнай вядомасцю. Але часу зноў так мала, што схема дзеянняў надзвычай простая: пасля абеду едзем на канцэрт, а перад канцэртам глядзім Спаса-Ефрасіннеўскую царкву.

Увайшлі ўнутр і замерлі. Бы адчулі подых часу ў гэтых старажытных сценах, на якіх дзе-нідзе яшчэ захаваліся унікальныя фрэскі, зробленыя таленавітым майстрам аж у XII стагоддзі. Як крыўдна, што большасць з іх ужо беззваротна загінула. А сапраўдная рэстаўрацыя помніка яшчэ толькі пачынаецца.

Па вузкаму і цёмнаму ходу па чарзе падымаемся ў келлю манахіні Ефрасінні, адной з найбольш адукаваных жанчын свайго часу, кніжніцы і асветніцы. Амерыканцы глядзяць ва ўсе вочы, нават забыўшыся пстрыкнуць фотаапаратам. Такога яны яшчэ не бачылі. Малады рэстаўратар з Мінска Аляксандр Астравух, які ўжо другі сезон займаецца тут фрэскамі, спыніў работу і расказвае наведвальнікам пра царкву. Голас яго, пасілены дзіўнай акустыкай будынка, гучыць прарочa...

Пасля наведвання царквы ніхто не можа гаварыць. Як аглушаныя, ідуць да дарогі сцяжынкай, па якой, мабыць, хадзіў некалі славуты Лазар Богша, што вырабіў для царквы Ефрасінні неверагоднай прыгажосці крыж. І гэты найкаштоўнейшы твор мастацтва, скарб нацыі, па некаторых звестках, знаходзіцца цяпер у Амерыцы.

Не вытрымлівае толькі Павал. Вочы яго гараць ад узрушэння: «Адзін такі помнік у Еўропе! Адзін! Няма яму цаны. Адзін такі помнік! Італьянцы на ўвесь свет галосяць пра свае помнікі. А яны XV—XVI стагоддзяў. А пра гэты — хто ведае?»

Доўга яшчэ не мог потым супакоіцца Павал. Здаецца, нават і да Бога звяртаўся, каб убачыў той такую несправядлівасць, каб не даў загінуць скарбу нацыянальнай і сусветнай культуры.

Назаўтра, раніцай, як ад'язджалі ў Вільню, пад'ехалі да велічнага Сафійскага сабора, каб сфатаграфавацца на памяць. Хлопцы пабеглі з бутэлькамі да крыніцы, што бруіла пад самымі сценамі сабора, — набраць халоднай вады. Можа, хто з іх і прывёз бацькам і дзедам у Амерыку вады з Радзімы. Кажуць, што вада тая асаблівая, вяртае сілу і здароўе.

Усяго адзін дзень у Вільні. Але зноў колькі пачуццяў! Хадзілі па старых брукаваных вулачках і плошчах, дзе так многае звязана з нашай гісторыяй і культурай. Вось славутыя Базыльянскія муры, Вострая Брама. Тут хадзіў Купала і іншыя супрацоўнікі «Нашай нівы», тут жыў Гарэцкі, Шырма. А ля маленькага доміка спыняемся з кветкамі. У ім, як значыцца на мемарыяльнай дошцы, беларускі асветнік Францішак Скарына выдаў першыя друкаваныя кнігі ў Літве.

Славутая друкарня Марціна Кухты, дзе ўбачыў свет першы і адзіны зборнік вершаў М. Багдановіча. Што ні крок, то нібы токам б'е. «У гэтым будынку былога дамініканскага манастыра былі заключаны ўдзельнікі паўстання 1863 года, у тым ліку і адзін з кіраўнікоў — Костас Калінаўскас». І на магіле нашага нацыянальнага героя — таксама: Костас Калінаўскас.

— Костас Калінаўскас, Міцкявічус, Багданавічус, добра яшчэ, што не доктар Скарынас, — пачынае заводзіцца ўжо і стрыманая ўвогуле Ала. — Хіба ж можна гэтак прысвойваць сабе чужое?!

Не з вясёлымі думкамі крочыць па плошчы Гедыміна група маладых людзей з бел-чырвона-белым сцягам. Ніхто тут не звяртае на іх увагі. Мусіць, ніхто і не жадае бачыць, акрамя тых беларусаў, што тут жывуць і чые карані з даўніх давён у віленскай зямлі.

— Няўжо вы аддадзіце Літве Віленшчыну? — устрывожана пытаецца па дарозе шаноўны кіраўнік гуртка. — Хіба можна аддаваць зямлю продкаў? Усе, хто толькі мог, цягалі з яе гісторыі, цягнулі сабе нашых герояў, прысвойвалі сабе нашы перамогі. Вось і пакінулі народ без усяго. Нават без мовы.

Я не магу, дарэчы, адказаць Але Орса-Рамана на такое складанае і сур'ёзнае пытанне. І ніхто пакуль што не можа. Думаецца, што яно павінна вырашыцца на карысць Беларусі. Тым больш, што ў сувязі з выхадам Літвы з СССР вышэйшыя ўлады рэспублікі зрабілі ўжо адпаведную заяву.

Гродна. Як заўсёды, ноч у нас скарочаная. Бо прыехалі ў гасцініцу позна. Пакуль рассяліліся, то і спаць няма калі. А з раніцы — во непрыемнасць: у Ані Бартуль — распухлі ногі. Усе разбегліся глядзець горад, няма з кім і параіцца.

Сядзім, ламаем галаву ўтраіх. Што рабіць? А як горш будзе? А ўвечары ж канцэрт... Словам, выклікалі «хуткую дапамогу». Урач уважліва агледзеў, пра ўсё распытаў, развёў рукамі.

— Трэба, каб паглядзеў хірург.

І вось Аня Бартуль з маці і я едзем праз увесь горад у абласную клінічную бальніцу. Аня з веданнем справы — сама ўрач — аглядае новенькую спецыялізаваную «хуткую». Вачамі паказвае, што машына — вышэйшы клас.

Даведаўшыся, што пацыентка — з Амерыкі, наша суайчынніца, ды яшчэ і ўдзельнічае ў дабрачынных канцэртах, дзе выконвае беларускія танцы, не прымусіў сябе чакаць спецыяліст з аддзялення сасудзістай хірургіі Валерый Акапян.

— Нічога сур'ёзнага, — супакойвае ён нас. — Але нагам патрэбны адпачынак. Ляжаць. І абавязкова піць лекі, якія я вам дам.

А потым доўга тлумачыў Ані пра яе нечаканую хваробу, выкарыстоўваючы медыцынскую тэрміналогію.

На развітанне мае амерыканцы, якія за ўсё прывыклі плаціць, пацягнуліся да сумачак, каб аддзякаваць урачам за такую аператыўную дапамогу. Але тыя, здаецца, ледзь не пакрыўдзіліся.

— Я адпрацую свой доўг Беларусі, — паабяцала Аня.

На той самай шыкоўнай «хуткай» нас даставілі ў атэль, дзе ўжо нарэшце заўважылі знікненне Бартуляў.

Мушу сказаць, што ўсё абышлося добра. Хаця Аня так і не выканала загаду свайго калегі-хірурга. Спачатку легла. Тады пачала перажываць, як там без яе абыдуцца. У рэшце рэшт выйшла разам з усімі на сцэну і адпрацавала праграму.

Прымалі «Васілёк» і «Жывіцу» ў Гродне выдатна. І як у іх хапіла яшчэ сіл пайсці пасля канцэрта ў госці да гродзенскай паэтэсы Дануты Бічэль-Загнетавай, дзе яны да раніцы танцавалі і песні спявалі, не ўяўляю.

— Беларусы моцныя, — пачула я з раніцы ў калідоры ад Павала, які цягнуў уніз да аўтобуса вялізныя дарожныя сумкі.

Вочы яго зліпаліся, і ён усімі сіламі змагаўся са сном. Каб падтрымаць хлопца, я сказала ўслед: «Беларусы моцныя, яны і не такое вытрымлівалі».

**Таццяна АНТОНАВА.**

## КОНКУРС ДУХАВЫХ АРКЕСТРАЎ







**Завяршыўся першы Рэспубліканскі конкурс духавых аркестраў. У аглядзе прынялі ўдзел лепшыя самадзейныя калектывы кожнай з шасці абласцей.**

**Заключная праграма абавязвала кожны аркестр выступіць у канцэрце на працягу 30 мінут. Аўтарытэтнае журы не раз было ў цяжкім становішчы. Бо сярод лепшых калектываў (многія носяць званне «народны») трэба было ўбачыць дастойных дыпламантаў.**

**Агляд яшчэ раз агаліў праблемы: небагаты рэпертуар духавой музыкі, недастаткова выдаецца ў рэспубліцы і нотных зборнікаў. Але дзякуючы імкненню самадзейных артыстаў выконваць добрую музыку, у рэпертуары аркестраў гучалі творы рускіх і зарубежных класікаў — М. Глінкі, П. Чайкоўскага, М. Рымскага-Корсакава, В. Моцарта, К. Вебера, Д. Расіні; маршы, уверцюры, розныя п'есы савецкіх аўтараў.**

**Конкурс закончыўся святам духавой музыкі, марш-парадам, шэсцем зводных духавых аркестраў абласцей-удзельніц. Ад плошчы Перамогі ў Мінску па Ленінскаму праспекту да плошчы У. І. Леніна ішлі самадзейныя музыканты, запрашаючы ўсіх на заключны канцэрт, у якім удзельнічала 700 чалавек.**

**Да позняга вечара на плошчах, у скверах і парках горада працягвалася ў той дзень свята духавой музыкі. Шматлікія слухачы яшчэ раз пацвердзілі, што духавая музыка — адна з традыцыйных галін айчыннай музычнай культуры. Яна па-сапраўднаму жыве ў самай гушчы народных мас.**

**Фота М. МІНКОВІЧА.**

---

### ЧЫМ ЦІКАВЫ КАМЕРНЫ ХОР ВАЛЕРЫЯ ПАЛЯНСКАГА

# ЗАБЫТАЕ ВЯРТАЕЦЦА ДА ЖЫЦЦЯ

АПОШНЯЯ праца цяпер найпапулярнейшага Камернага хору на чале з Валерыем Палянскім — «Антыфармалістычны раёк» Д. Шастаковіча — мела сенсацыйны поспех у дзень прэм'еры ў Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі. Не дзіва, нават сёння, у перыяд духоўнага, культурнага разняволення, «Раёк» — гэта, па сутнасці, сатырычная опера-гратэск выглядае вельмі смела і сучасна. Цікавая дэталь. «Раёк» — своеасаблівы музычны адказ кампазітара на ганенні, якім падвяргалася ў 1948 годзе творчая інтэлігенцыя: Сяргей Пракоф'еў, Ганна Ахматава, Міхаіл Зошчанка і сам Дзмітрый Шастаковіч. У трох галоўных героях яго прагладваюць злавесныя фігуры Сталіна, Жданава, Шапілава. Харысты Палянскага паказалі тут і свае выдатныя артыстычныя здольнасці, выканаўшы вядучыя партыі. А дырыжор адкрыў публіцы яшчэ і сваё рэжысёрскае дараванне.

Сорак гадоў назад напісаная, рэч прагучала толькі зараз, і тое, што яе першым выканаўцам стаў хор Палянскага (так яго яшчэ называюць), не выклікала ні ў кога здзіўлення, бо крэда самога кіраўніка вядомае — уваскрашэнне да жыцця забытай, малавядомай пеўчай спадчыны.

«Перш за ўсё гутарка ідзе аб аднаўленні свайго роду рускай харавой анталогіі,— гаворыць Палянскі.— Але задача гэтым не абмяжоўваецца». Так, хор выканаў упершыню ў СССР нямала твораў кампазітараў Еўропы, дагэтуль нашаму слухачу невядомых. У рэпертуары хору — цэлыя манаграфічныя праграмы, прысвечаныя кампазітарам самых розных эпох. І.-С. Баху і Вівальдзі, Букстэхудэ і Моцарту, дэ Прэ і Равелю...

Такі зварот да мінулага не толькі выхоўвае слухачоў, памагае ўдасканаленню майстэрства і культуры спевакоў, але і служыць магутным каталізатарам для сучасных кампазітараў, натхняемых на стварэнне харавых твораў. Да прыкладу, такі буйны савецкі кампазітар, як А. Шнітке, усе свае харавыя творы прызначае для гэтага калектыву. У канцэрце ў гонар 1000-годдзя хрышчэння Русі хор выканаў яго твор, напісаны спецыяльна да юбілею.

Першы канцэрт заснаванага Палянскім хору адбыўся 1 снежня 1971 года. Афіцыйны статус дзяржаўнага ён атрымаў у 1980. А ў час яго зараджэння былі яшчэ студэнтамі Маскоўскай кансерваторыі і спевакі, і іх кіраўнік, які авалодваў адразу дзвюма спецыяльнасцямі: дырыжора-харавіка і оперна-сімфанічнага дырыжора. Яшчэ ў студэнцкія гады Палянскі стаў за дырыжорскі пульт Маскоўскага тэатра аперэты, дзе прапрацаваў сем гадоў. Затым, вытрымаўшы цяжкі конкурс, пачаў дырыжыраваць у Вялікім тэатры СССР.

І ўсё ж харавая «справа» была больш яму па душы. Выбар быў зроблены. Так падпарадкавала чалавека сапраўднае прызванне, бо работа з хорам надзвычай цяжкая. Бытавое, фінансавае становішча харавых калектываў у нас намнога горшае, чым тэатраў або іншых музычных арганізацый. «У хорах могуць працаваць толькі энтузіясты»,— гаворыць Палянскі. Сам ён і яго аднадумцы таму прыклад. Ёсць спевакі, якія прапрацавалі ў калектыве ўсё сваё артыстычнае жыццё. Вядома, хор абнаўляецца, але ў цэлым ён стабільны. Талент і велізарная працавітасць яго кіраўніка садзейнічаюць гэтаму.

Творчы дыяпазон трупы становіцца ўсё больш разнастайным. Адзін прыклад. Мінулай восенню Міжнародны дзень музыкі быў адзначаны ў Маскве «Літургіяй святога Іаана Златауста» С. Рахманінава ў выкананні Камернага хору Палянскага. Усяго толькі 3—4 гады назад цяжка было і ўявіць такое. Усё, што тычылася духоўнай музыкі, доўгія гады было забаронена.

«Наш хор цяпер свабодна выступае ў адных канцэртах з харамі праваслаўнай царквы. Так, мы былі запрошаны да выступленняў у канцэртах у дні, калі адзначалася 1000-годдзе хрышчэння Русі, 400-годдзе рускага патрыяршаства...» Да гэтых слоў трэба дадаць, што ў калектыве, не афішыруючы, заўсёды вывучалі і старажытнарускае пеўчае мастацтва, і рускую класіку, да тых традыцый звернутую.

40-гадовы В. Палянскі, заснавальнік і 18 гадоў нязменны кіраўнік хору, даўно ўжо вывеў сваё «дзецішча» ў лік лепшых харавых калектываў краіны.

Першыя ж гастролі калектыву ў 1975 годзе ў Італіі прынеслі прызнанне. Там, на міжнародным конкурсе паліфанічных хароў, «Гвіда д'Арэца», савецкія выканаўцы атрымалі адразу чатыры ўзнагароды. Адна з іх — спецыяльны прыз В. Палянскаму як лепшаму дырыжору конкурсу.

У жніўні ж 1989 В. Палянскі, па яго ўласнаму выразу, «зноў вярнуўся ў месцы свайго музычнага юнацтва» — у «Гвіда д'Арэца» ён быў ужо членам журы, заўважу, упершыню для савецкага харавіка.

У тым жа годзе ў Сіене, на Саборнай плошчы, якая мае прыродную выдатную акустыку і такія ж выдатныя натуральныя «дэкарацыі», адбылося прадстаўленне оперы «Цар Эдып» І. Стравінскага ў выкананні артыстаў з многіх краін свету. З СССР былі запрошаны дырыжор Г. Раждзественскі і Камерны хор на чале з В. Палянскім.

Так, хор зацвердзіў сваю рэпутацыю ў многіх зарубежных гастролях і на фестывалях у Францыі, ФРГ, Канадзе, Фінляндыі, Турцыі, Польшчы, Чэхаславакіі...

І апошняе. Хор Палянскага мае багатую дыскаграфію і не раз атрымліваў за свае запісы прызы на радзіме і за мяжой, да прыкладу, у Францыі і Японіі. Яго апошнюю работу можна назваць артыстычным подзвігам. Упершыню ў гісторыі сусветнай музыкі запісаны на дыскі ўсе 35 харавых канцэртаў Б. Бартнянскага. Выдатны кампазітар XVIII стагоддзя, які пісаў у многіх жанрах, як і Моцарт, быў ганаровым членам вядомай музычнай акадэміі ў Балоньі.

Пяць пласцінак, на кожнай з якіх некалькі харавых канцэртаў Бартнянскага, ужо выпушчаны ў свет фірмай грамзапісу «Мелодия». Астатнія запісы ў стадыі падрыхтоўкі да выпуску. Унікальнасць гэтай работы яшчэ і ў тым, што запісы рабіліся ў Смаленску і Полацку, у іх старажытных цэрквах— Успенскай і Сафійскай, якія валодаюць цудападобнай акустыкай.

**Санія ДАЎЛЕКАМАВА.**

---

# КУПАЛАЎЦЫ НА «МРОЖАК-ФЕСТЫВАЛІ»

У Кракаве завяршыўся міжнародны фестываль драматычных спектакляў, пастаўленых па творах вядомага сучаснага польскага празаіка і драматурга Славаміра Мрожака, а таксама кінафільмаў і тэлефільмаў па яго сцэнарыях — «Мрожак-фестываль». На працягу пятнаццаці дзён жыхары старадаўняга горада, звязанага з гісторыяй нашай культуры імёнамі Скарыны, Цёткі і іншымі, маглі ўбачыць звыш трыццаці спектакляў і фільмаў не толькі з Польшчы, але і з многіх іншых краін свету.

У ліку двух лепшых (разам з «Партрэтам» вядомага польскага рэжысёра Е. Яроцкага) тэатразнаўцамі і грамадскасцю быў названы спектакль Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы «Эмігранты», які ў Кракаве быў паказаны тройчы і адзін раз у Хожуве. Адгукнулася на беларускі спектакль крытыка: на другі дзень пасля першага паказу з'явіліся рэцэнзіі ў «Газеце Кракоўскай» і ў спецыяльным перыядычным выпуску фестывалю.

Аўтары артыкулаў высока ацанілі ігру купалаўцаў А. Дзянісава і Г. Маляўскага, арыгінальную задуму рэжысёра М. Пінігіна, сцэнаграфію мастака У. Жданава.

Славамір Мрожак, які спецыяльна прыехаў на фестываль у Кракаў з Мексікі, дзе ён цяпер жыве, пасля прагляду беларускіх «Эмігрантаў» шчыра падзякаваў творчай групе за стварэнне спектакля і падкрэсліў, што яго здзівіла здольнасць артыстаў з Мінска перадаць рысы беларускага нацыянальнага характару ў створаных ім персанажах драмы.

**В. НІКІФАРОВІЧ.**

---

## АДРАДЖАЮЦЦА ПОМНІКІ



**Больш за 300 тысяч рублёў выдзеліў калектыў эксперыментальнай базы «Баруны» Ашмянскага раёна на рэстаўрацыю і капітальны рамонт будынка былога манастыра пры Барунскім касцёле. Пасля заканчэння будаўнічых работ тут размесціцца культурны цэнтр з залай шлюбаў, кіназалай, а таксама гасцініца, дзе ў зімовы час будуць жыць школьнікі, якія прыязджаюць на вучобу ў мясцовую дзесяцігодку з далёкіх вёсак. У падвальным памяшканні вырашана абсталяваць цір, пакоі для заняткаў настольным тэнісам і цяжкай атлетыкай.**

**НА ЗДЫМКУ: у пасёлку Баруны. Так выглядае двухпавярховы будынак былога манастыра (з правага боку на заднім плане), які рэстаўрыруецца.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

*НАТАТКІ БІЁЛАГА*

# ЛІПЕНЬ — ВЯРШЫНЯ ЛЕТА

ЛІПЕНЬ — вяршыня лета, самы цёплы і адначасова самы дажджлівы месяц. Праўда, не сёлетні. Сярэдняя тэмпература паветра вагаецца каля 18 градусаў. Пры гэтым амаль палавіна дзён мае сярэднесутачную тэмпературу больш за 20 градусаў. Нават ноччу пануе цеплыня, і рэдка бывае ніжэй 14.

Дажджы, як правіла, цёплыя і непрацяглыя. Воблакі звычайна нядоўга трымаюцца на небе і, выліўшы на зямлю сваю чарговую багатую порцыю, гэтак жа хутка ўплываюць, нібыта спяшаючыся напаіць іншыя ўгоддзі, што прагнуць вады. І такое ж моцнае зямное выпарэнне. Так што амаль такая ж самая колькасць вады, што і выпала ў ападках, тут жа ідзе ў паветра і зноў кандэнсуецца ў хмарах, утвараючы пастаянны паскораны кругазварот летняй вільгаці.

Мноства цяпла і вільгаці надзвычай спрыяе росту раслiннасці, асабліва дзікіх траў і сельскагаспадарчых культур. Яшчэ больш раскошным, чым у чэрвені, робіцца іх суцэльны рознакаляровы дыван, які ўсцілае палі, лугі і лясныя паляны. Цвіце блакітнымі і фіялетавымі гронкамі мышыны гарошак, пераплятаючы сваімі доўгімі цэпкімі сцябламі суседнія злакі, што цягнуцца да сонца. Расцвітае ліловая лугавая герань, крываўнік, залацісты святаяннік. Пачынае расцвітаць і непаўторна пахне на сухіх палянах чабор. А сярод пасеваў жыта, як па камандзе, раскрылі пяшчотныя блакітныя галоўкі шматлікія васількі, ды спелым духмяным настоем пахне палявая мята.

Але найбольш характэрным для ліпеня ўсё ж лічыцца цвіценне ліпы. Яна самай апошняй з усіх драўняных парод распускае кветкі і характэрна вылучаецца цяпер сярод іншых дрэў сваімі, нібыта аблітымі малаком, кронамі.

Ліпа — непераўзыдзены меданос. І калі ўмовы надвор'я спрыяюць гэтаму, пчолы поўнасцю пераключаюцца на збор нектару толькі з гэтых кветак, выпрацоўваюцы асабліва каштоўны цёмны ліпавы мёд. З аднаго гектара ліпавага лесу нястомныя працаўнікі збіраюць часам да тоны высокакаштоўнага нектару, а з кожнага дрэва — па 10—15 кілаграмаў.

Уся раслiннасць дасягае мяжы свайго развіцця. На паўтараметровую вышыню ўзняўся па ўзлесках і краях шырокіх палян прыгажун нашых лясоў скрыпень і красуецца буйнымі ружовымі суквеццямі. Тут жа побач казыча нос сваім пахам мацярдушка. А ля ўзбярэжжа балоцістага ручая ўтварыліся густыя зараснікі і расцвілі жоўтыя і белыя гарлачыкі. Іх салодкімі, багатымі крухмалам карнявішчамі спяшаюцца паласавацца бабры, андатры, хахулі.

Стаячыя вадаёмы зацягваюцца цінай і раскай. У іх шчодра прагрэтай тоўшчы развіваецца мноства дробных водарасцей. Вадаёмы «цвітуць». А водарасці гэтыя служаць добрым кормам вадзяным клапам, лічынкам камароў і іншай воднай жыўнасці, якія тут размножыліся ў вялікай колькасці. Імі ў сваю чаргу сілкуюцца лічынкі рыб, ад якіх літаральна кішаць прыбярэжныя ўчасткі вадаёмаў. Паядаюць іх таксама апалонікі і жабяняты, якія ўжо сфарміраваліся. А дарослая рыба больш аддае перавагу лятаючым насякомым, паспяхова здабываючы іх у высокіх паветраных скачках. Добра, што ў паветры ўюцца матылі, стракозы, аўсянкі. А вось налім не любіць летняга цяпла. Ён пайшоў на глыбіню і схаваўся сярод камянёў, пагрузіўшыся ў соннае здранцвенне.

У лясных насельнікаў свае клопаты. Па-ранейшаму не часта пачуеш бесклапотныя спевы птушак. Маўчаць салаўі, не кукуе зязюля. Толькі зрэдку даносіцца разарваная трэль жаваранка, прасвісціць сініца ды раздасца флейтавы покліч івалгі.

А шпакі і гракі ўжо збіваюцца ў вялікія чароды і спрабуюць свае сілы для будучых працяглых пералётаў. Цяпер трэба аберагаць ад іх нашэсцяў вішнёвыя сады, да пладоў якіх яны ласыя. Вадаплаўныя ж, наадварот, забіліся ў самы густы чарот і сядзяць там ціха, таму што ў іх выпадаюць цяпер махавыя крылы і яны часова не могуць лятаць.

Падраслі і набылі звыклую рыжую афарбоўку маладыя лісяняты. Цяпер ужо ім не хапае ежы, што прыносяць бацькі. Самі разам з імі выходзяць на актыўнае паляванне і даволі паспяхова здабываюць маладых зайчанят, палёвак і дзікую птушку. А зайчаняты, што з'явіліся ў другім прыплодзе, ужо падрастаюць і, наадварот, вучацца затойвацца і ратавацца ад гэтых і іншых драпежнікаў.

У жвавай жа яшчаркі толькі што з'явілася на свет першае патомства. Маленечкія рухомыя яшчаркі вылупіліся са скурыстых яек і асвойваюць цяпер азы самастойнага жыцця. У асабліва гарачыя дні можна ўбачыць на пяньку гадзюку, якая грэецца пад сонцам. А вужы ў гэты час больш цягнуцца да балоцістых месцаў і вадаёмаў.

У ліпені пачынаецца грыбны сезон. Частыя дажджы і цёплыя летнія дні як нельга лепш спрыяюць іх росту. Цэлымі высыпкамі з'яўляюцца сярод густога імху жоўценькія мініяцюрныя талерачкі лісічак. У самых незвычайных месцах можна сустрэць шэранькія і карычневатыя падбярозавікі. Пускаюцца ў рост надзвычай прыгожыя чырвонагаловыя падасінавікі. А вось белых грыбоў пакуль мала. Яшчэ адзін-два тыдні пройдуць, і яны таксама шчодра парадуюць вока грыбніка. Але гэта — толькі ў жніўні.

**Вячаслаў СТОМА.**

## спорт

Калі нашы чытачы атрымаюць гэты нумар газеты, у Сіэтле вызначацца першыя пераможцы Гульняў добрай волі. Спаборніцтвы па сваёй значнасці ўступаюць хіба што Алімпіядзе. Сёлета ў ЗША з'ехаліся прадстаўнікі больш сарака краін.

Адна з самых прадстаўнічых каманд на Гульнях добрай волі — зборная СССР. У яе складзе 650 чалавек. Трыццаць чатыры спартсмены — прадстаўнікі Беларусі, сярод якіх таксама многа «зорак». І мы сёння асаблівыя надзеі ўскладваем на гімнастку Святлану Багінскую, гандбалістаў Аляксандра Тучкіна, Міхаіла Якімовіча, Канстанціна Шаравара, цяжкаатлетаў Аляксандра Курловіча і Леаніда Тараненку...

А ў гэтыя дні праходзяць і завяршаюцца іншыя спаборніцтвы. Атрымліваем мы з розных крыніц і прыемныя, і не вельмі прыемныя звесткі аб выступленні прадстаўнікоў нашай рэспублікі.

Завяршыўся, напрыклад, шахматны турнір у Маніле. Першае месца раздзялілі мінчанін Барыс Гельфанд і Васіль Іванчук з Львова.

Затое без узнагарод засталася зборная СССР, за якую выступалі і мінчанкі Галіна Савіцкая, Ірына Сумнікава, Алена Швайбовіч, на чэмпіянаце свету па баскетболу ў Малайзіі.





**На беразе Азоўскага мора, на Арабацкай стрэлцы, размясціліся піянерскія лагеры «Гранада», «Радуга», «Янтар», «Сонечны бераг» і іншыя. Тут разам з украінскімі аднагодкамі адпачываюць і сотні хлопчыкаў і дзяўчынак з раёнаў жорсткага кантролю Гомельскай вобласці. Увага і клопат людзей, паўднёвае сонца, гаючае марское паветра, добрае харчаванне дапамогуць дзецям пажадаравець, загарэць, набрацца сіл і здароўя перад новым навучальным годам.**

**Незабыўнымі застануцца для юных гамяльчан і ўдзел у святе Нептуна, і сустрэча світанку на беразе мора, і прагулкі на катэры.**

**НА ЗДЫМКАХ: свята Нептуна; прыемна выкупацца ў цёплым, пяшчотным моры.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

# ГОМЕЛЬСКІЯ ВУЛІЦЫ XVIII СТАГОДДЗЯ

Як вядома, у 1772 годзе Гомель быў далучаны да Расіі ў выніку першага падзелу Рэчы Паспалітай, да гэтага з 1335 года знаходзіўся ў складзе Вялікага княства Літоўскага, а з 1569 года (з невялікімі перапынкамі) з'яўляўся прыгранічным мястэчкам Рэчы Паспалітай.

У Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Літоўскай ССР захоўваецца інвентар Гомельскага староства 1765 года. Гэты дакумент вельмі цікавы многімі фактамі, але ў даным выпадку прыцягвае нашу ўвагу тым, што змяшчае забытыя і невядомыя сёння назвы гомельскіх вуліц 60-х гадоў XVIII стагоддзя.

У той час у Гомелі было 5 вуліц. Адна з галоўных называлася Пячэрскай, таму што вяла ў бок Пячэрскага прадмесця. Другая вуліца насіла найменне Троіцкай, бо на ёй размяшчаўся такі важны і значны для мястэчка аб'ект, як Троіцкая царква. Цяпер Троіцкая вуліца вядома як Сялянская. Трэцяя вуліца называлася Спаскай, паколькі вяла ў стараверскую Спасаву Слабаду. Назва вуліцы захоўвалася да 1923 года. Чацвёртая вуліца — Рэчыцкая — атрымала сваю назву па гораду, у напрамку якога была арыентавана.

Нарэшце, пятая вуліца называлася Дэканаўскай. Аб паходжанні гэтай назвы цяжка сказаць што-небудзь пэўнае, бо не захавалася дакладных звестак. Выкажам наступнае меркаванне: назва Дэканаўскай вуліцы суадносіцца з найменнем вёскі Дзехань Смалявіцкага раёна Міншчыны, якую вядомы беларускі тапаніміст В. Жучкевіч лічыў паўтарэннем іранамоўных слоў са значэннем «вёска, пасяленне».

Такім чынам, інвентар 1765 года дазваляе рэканструяваць наступную гарадскую схему. Ад замка (тэрыторыя сучаснага парку) цягнулася прыкладна на месцы сённяшняга праспекта імя Леніна вуліца Пячэрская, справа ад яе размяшчалася Троіцкая вуліца, а злева, паралельна адна другой — яшчэ дзве — Спаская і Рэчыцкая. Апошняя вуліца існуе і цяпер у Цэнтральным раёне горада і нават пад той жа самай назвай, якую трэба лічыць самай старой сярод вуліц горада.

Размяшчэнне Дэканаўскай вуліцы невядома.

**А. МЯЗЕНКА,**
**кандыдат філалагічных навук.**

**ЗДАРЭННЕ**

# БОМБА, БОГ І САПЁРЫ

**Цяжка сказаць, куды мецілі гітлераўскія лётчыкі, скідваючы 250-кілаграмовую бомбу на вызвалены ў 1943 годзе Мсціслаў. Ці то ў старажытны помнік—сабор Аляксандра Неўскага, ці то ў суседні будынак, дзе тады размяшчаўся штаб 2-га Беларускага фронта. Веруючыя запэўніваюць, што ўсявышні адвёў бяду ад храма, а ваенныя лічаць, што фашысты проста прамахнуліся.**

**Бомба не разарвалася, увайшла ў зямлю на царкоўным двары, ды так і праляжала 47 гадоў. Толькі цяпер, пракладваючы водаправод, яе выявілі будаўнікі.**

**Перакананыя, што і на гэты раз бомба не ўзарвалася па волі божай, веруючыя, тым не менш, сардэчна падзякавалі сапёрам БВА — сапраўдным выратавальнікам гістарычнага помніка, якому другі раз пагражала небяспека. А маладыя салдаты на памяць аб праведзенай імі намайстэрску аперацыі па абясшкоджванню ўручылі адпаведны акт мясцоваму свяшчэнніку айцу Тарасію.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 969